НАША СВАБОДА
№83 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА
15 СНЕЖНЯ 2000 года ПЯТНІЦА
Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com
КОШТ СВАБОДНЫ




# Президентом стал республиканец Джордж Буш

В среду в 21:00 по восточноамериканскому времени кандидат в президенты США от Демократической партии Алберт Гор выступил с телеобращением к американскому народу, в котором признал свое поражение на президентских выборах и объявил о том, что согласен с тем, что избранным президентом США отныне является Джордж Буш-младший, кандидат от Республиканской партии.

Через несколько минут избранный президент США Джордж Буш, находившийся в здании палаты представителей родного штата Техас, также выступил по телевидению с обращением к народу.

Новый президент выразил надежду, что совместно с Албертом Гором ему удастся «вылечить» страну от последствий тяжелой битвы за Белый дом. Буш подчеркнул, что рад тому, что исход выборов решился мирным путем. Кроме того, новый американский президент поблагодарил всех, кто помогал ему в непростое время выборов, в том числе и свою жену Лауру, которая, по его словам, будет «прекрасной первой леди США».

Алберт Гор в своем выступлении сообщил, что уже позвонил Бушу и поздравил его с избранием 43-им президентом США, и обязался не оспаривать больше этот факт. ►

*Окончание на стр. 3*

# Беларуская апазіцыя сустрэлася з Вацлавам Гавелам



**Рыгор БУЯН**

**Сустрэчай з прэзідэнтам Чэхіі Вацлавам Гавелам 13 снежня завяршыўся двухдзённы візіт дэлегацыі беларускай апазіцыі ў Прагу. Па прызнанні старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі, па насычанасці такую праграму можна было б умясціць у цэлы тыдзень.**

Лідэры АГП Анатоль Лябедзька, Беларускага Народнага Фронту Вінцук Вячорка і Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Станіслаў Шушкевіч, а таксама кіраўнік Маладзёвага інфармацыйнага цэнтра Алесь Міхалевіч пачалі візіт 12 снежня з сустрэчаў у парламенце Чэхіі. Беларускую дэлегацыю прынялі на самым высокім узроўні таксама і ва ўрадзе, прычым цэнтральнае месца, безумоўна, мела сустрэча з прэзідэнтам Вацлавам Гавелам.

За паўгадзіны аўдыенцыі ў прэзідэнта Чэхіі беларускія палітыкі здолелі распавесці пра сітуацыю на Беларусі, стратэгію і тактыку пераменаў беларускай апазіцыі. В.Гавел вітаў вылучэнне адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад апазіцыі. Па словах А.Лябедзькі, чэшскі прэзідэнт «усцешаны тым, што ў Беларусі, нягледзячы на розныя складанасці, ідзе працэс аб'яднання апазіцыі». Ён таксама спадзяецца, што апошні аўтарытарны рэжым у Еўропе чакае такі ж лёс, як і любы іншы.

Падчас сустрэчы адзначалася, што перамагчы на прэзідэнцкіх выбарах у 2001 годзе магчыма пры наяўнасці дакладнай і моцнай тактыкі беларускай апазіцыі. Асобны акцэнт падчас сустрэчы з В.Гавелам беларускія апазіцыянеры зрабілі на двухбаковых беларуска-расійскіх стасунках. Як сцвярджае В.Вячорка, прэзідэнт Чэхіі з трывогай сочыць за беларуска-расійскай інтэграцыяй, таму што Расія «можа паслужыць фактарам кансервацыі існуючага рэжыму». Вацлаў Гавел пабяцаў беларускай апазіцыі падтрымку, і перш за ўсё лабіраванне яе інтарэсаў на міжнародным узроўні.

Пра супрацоўніцтва на міжпарламенцкім узроўні ішла гаворка і з кіраўніцтвам парламента Чэхіі. Анатоль Лябедзька адзначыў, што падчас сустрэчы з віцэ-спікерам Сената спадаром Піттгартам ішла гаворка не толькі пра двухбаковыя адносіны (бакі дамовіліся пра прыезд у Беларусь групы парламентарыяў на запрашэнне ВС 13-га склікання), але і пра каардынацыю дзейнняў у міжпарламенцкіх структурах: Парламенцкіх асамблеях АБСЕ, Савета Еўропы і NATO. У тых міжнародных структурах, дзе Вярхоўны Савет 13-га склікання не прадстаўлены, яго інтарэсы будуць адстойваць чэшскія парламентары. Апрача таго, парламент Чэхіі гатовы дапамагчы і накіраваннем сваіх назіральнікаў на прэзідэнцкія выбары 2001 года; Чэхія мае цудоўны вопыт постсацыялістычнага жыцця, не скарыстацца якім было б грэх. ■

# Старые пружины Азарёнка и К°

**Владимир ДОВЖЕНКО**

Пошел уже пятый месяц, как у пульта главной и единственной телевизионной антенны страны стал новый начальник. С одинаковым успехом он мог быть назначен директором табачной фабрики или даже лавки, сельской бани или просто снова вернуться на часовой завод.

А вот за то, что в будущем он обязательно станет дипломатом, могу дать голову на отсечение, хотя и не хотелось бы. Телевидение ведь – главная кузница кадров для отечественного МИДа (хотя и здесь конкурентов много: сельское хозяйство, строительство, лукомол и т. д.). Вспомним хотя бы предшественника, шесть лет назад заблудшего на Макаенка, 9. Ведь история, как известно, имеет печальное свойство повторяться, особенно для тех, кто ее не учит.

Тот, предшествующий, начинал со скромностью провинциала, с места в карьер не обещал кисельных берегов, по незнанию иль умыслу особо не мешал творческому процессу, просто работал. То есть приезжал на работу, был на ней и уезжал с нее. Коллегию председателю заменило мнение жены и дочерей, худсовет – накачка президента. С подчиненными был краток (не нравится – уходи!), кличек, как нынешние типа «Мальчик», «ГКЧП», не имел. Злился, когда в информационных сюжетах о разного рода посиделках забывали показать и его, разносы устраивал похлеще, чем если бы неправильно выставляли свет на чью-либо шевелюру! ►

*Окончание на стр.7*

# Головокружения кадров

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

Предполагалось, что публичные представления А. Лукашенко вновь назначенных руководителей государственных органов страны подведут черту под версиями о причинах происшедшей ротации кадров. Однако, переданный 12 декабря по каналу НТВ сюжет о противоборстве между белорусскими силовыми структурами дает основания предположить, что в Беларуси произошли события, способные вызвать далеко идущие последствия. Для всех.

Появление на телеэкране командира бригады оперативного реагирования (спецназ) Внутренних войск МВД Беларуси полковника Дмитрия Павлюченко вынудило кое-что вспомнить. В сентябре вдруг стали циркулировать слухи о якобы скоропалительном отстранении Д.Павлюченко от командования бригадой. Конкретных причин по этому поводу не называлось. В пресс-службах МВД, Внутренних войск и Совета безопасности слухи об исчезновении комбрига опровергали. А его отсутствие на месте службы объясняли уходом в отпуск. Уже тогда показалось весьма странным то, что об отпуске сына ничего не знал его пожилой отец, которого он навещал почти каждый день. Отец не скрывал того, что у сына порою возникали желания уйти со службы. Но, по его словам, не отпускали. Чувствовалось, что тема службы сына была малоприятной для отца, и чтобы не доставлять дополнительных волнений пожилому человеку, от дотошных расспросов пришлось отказаться. ►

*Окончание на стр. 3*

## НАВІНЫ

■ **Паводле словаў галоўнага эпідэміёлага міністэрства аховы здароўя Анатоля Кажамякіна, у Беларусі назіраецца «эпідэмічны ўздым гепатыту А».** За 10 месяцаў 2000 года захворвальнасць на яго павялічылася ў параўнанні з мінулым годам на 73%. Пачалася прафілактычная вакцынацыя людзей з хваробамі крыві.

■ **Абсталяванне ў беларускай прамысловасці зношанае амаль на 80%, і адсюль высокі ўзровень вытворчага траўматызму.** Штогод траўмы атрымліваюць каля 10 тысячаў чалавек, 300 гінуць, 700 становяцца інвалідамі. Канцэпцыі дзяржаўнага кіравання аховай працы дагэтуль няма.

■ **Кіраўнік «Белнафтахіму» Іван Бамбіза заявіў, што паліва бліжэйшыя месяцы даражэць не будзе.** Мауляў, і так кошты на яго вялікія. Як вынік, у 2000 годзе паліва ў краіне прададзена на 12% менш за леташні паказчык.

■ **Склад Палаты прадстаўнікоў можа памянець.** Як паведамляе «Інтэрфакс», 2 дэпутаты «палаты» думаюць пра адмаўленне ад дэпутацкага мандата і вяртанне да ранейшай працы.

■ **Па дадзеных мінсельгасхарчу, траціна прадпрыемстваў малакаперапрацоўчага комплекса зараз стратныя.** Рэнтабельнасць у гэтай галіне сёлета 3,6%, што амаль утрая менш, чымсьці летась.

■ **На некаторыя віды алкагольных напояў павялічыліся памеры акцызы.** На 10% узрос акцыз на натуральныя віны, на 5% — на каньяк і брэндзі. Акцыз на шампанскае і піва не змяніўся.

■ **Учора ў Мінску адбылося сумеснае паседжанне калегіі міністэрства спорту і турызму і выканкама НАКа рэспублікі Беларусь.** Яно мела назву «Аб выніках удзелу беларускіх спартсменаў у XXVII Алімпійскіх гульнях 2000 года ў Сіднеі і асноўных напрамках працы па падрыхтоўцы камандаў па відах спорту ў алімпійскім цыкле 2001–2004 гадах». *Падрабязнасці ў наступным нумары.*

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1205**

 



# Головокружения кадров

*Окончание. Начало на стр.1*

Говорили, что поначалу и жена полковника проявляла сильное волнение по поводу отсутствия мужа в те сентябрьские дни. Но затем вдруг выяснилось, что и она отбыла отдыхать. Спустя некоторое время, после якобы объявленного на плацу распоряжения об отстранении от должности, там же самого комбрига вновь представили личному составу в прежнем качестве. Чего-то в этих слухах тогда не хватало для того, чтобы они стали былью.

И вот, вслед за шумными перемещениями и увольнениями силовиков, главным кадром на белорусском и российском телеканалах вдруг стал комбриг спецназа ВВ, которого считают создателем отечественного СОБРа. Отряд этот является структурой бригады, дислоцирующейся в Уручье, под Минском. Функции и задачи у нее аналогичны подмосковным Кантемировским и Таманским дивизиям — главу государства охранять и его власть защищать. Следует отметить, что, в отличие от воинской присяги на верность народу Республики Беларусь, «рысята» (сильная и хитрая рысь-эмблема уручинской бригады) присягают президенту и отечеству. Собственно такую присягу комбриг В.Павлюченко и повторил по телевизору. Видимо, это выступление в телекамеру предназначалось не только простым телезрителям. А показ В.Павлюченко по НТВ в ключе противоборства спецслужб и вовсе должен вызвать головокружение. В различных сферах и у разных кадров. И вновь вокруг фигуры комбрига возникли слухи. Если им верить, то произведенной 27-28 ноября главнокомандующим кадровой операции в отношении КГБ, прокуратуры, госсекретариата Совета безопасности и Службы безопасности Президента предшествовали события, о которых как бы мимоходом упомянул А.Лукашенко, выступая в КГБ. Противоречия между руководителями спецслужб чуть было не привели к кровопролитию между их спецотрядами. Разные анонимные источники утверждают, что бойцы спецподразделения «Альфа», которое традиционно находится в ведении КГБ, задержали и этапировали в «американку» (изолятор КГБ)....комбрига В.Павлюченко. Но вопреки замыслу отдававших приказ (КГБ и Прокуратура) об аресте, комбриг успел якобы подать сигнал своим верным собровцам. Противостояние между командами «Альфа» и СОБР продолжалось некоторое время. Надо полагать, что освобождение В.Павлюченко по личному указанию А.Лукашенко и смогло разрядить создавшуюся весьма опасную для властей обстановку. О причинах преследований комбрига и некоторых других спецназовцев сказал сам глава государства. Причины связаны с делами об исчезнувших операторе ОРТ Дмитрии Завадском, бывшем министре внутренних дел Юрии Захаренко, председателе Центризбиркома Викторе Гончаре и бизнесмене Анатолии Красовском. А.Лукашенко всем посоветовал впредь считать его виновным за то, что, как глава государства, он допустил исчезновения этих людей.

Наблюдатели различного толка склонны называть самым «мастерским» кадровым финтом перемещение преданного, «грудью защитившего президента от пули» Виктора Шеймана с поста госсекретаря СБ на должность Генпрокурора. В отличие от всех перемещенных, ему даже генеральскую звезду на погоны добавили. В синем прокурорском мундире, надо полагать, сшитом в рекордные сроки, перед чиновничьим людом он предстал уже государственным советником 2-го класса (генерал-лейтенант). Правда, тот же люд шепчет о действительности диплома-юриста у нового генпрокурора. Теперь больший интерес вызывает дальнейшая судьба его нынешних заместителей. В правящих кругах не один день циркулирует информация о тесных связях некоторых из них с опальными бизнесменами, некогда близкими ко двору и переехавшими в Москву. Да и некоторых из тех, кто вновь стал народным депутатом, могут сильно озадачить вероятные кадровые ротации в руководстве прокуратуры. Однако, некоторые наблюдатели полагают, что работа обновленной прокуратуры в еще большей степени усилится в отношении оппозиции. В связи с обещанными в будущем году президентскими выборами, которые уже называют большой схваткой как с внутренними, так и с внешними врагами, для оппозиционеров готовятся обвинения в подрывной антигосударственной деятельности. И суды с государственными обвинителями, что вполне вероятно, будут не о защите чести и достоинства чиновника, а о шпионской деятельности того или иного оппозиционера.

Ну а что касается «головокружений», которые наблюдались у силовиков и приведшим к кадровым ротациям, то очевидно, что перестановки были не плановыми, а симптоматичными.

Можно с большими оговорками вспомнить из недавней истории, к примеру шахский режим в Иране. Как известно, обладая немалыми материальными ресурсами, монарх имел многочисленные силовые структуры. В том числе и батальоны так называемых «бессмертных» — преданных спецназовцев. Не помогли сохранить власть. Многие из них превратились в стражей исламской революции — спецназа нового режима.

Конечно, Беларуси не грозят толпы антизападных религиозных фанатиков, способных заменить безбожников у власти. Но вот насчет насыщения ею различного рода спецподразделениями, то их содержание явно стало не по карману правящему режиму. Пик своего ресурса он уже пережил в 1997-1999 годах. Наблюдается процесс истощения. В том числе и в кадровой сфере. И если кто-то стал видеть свет в конце тоннеля, то это свет встречного поезда. ■

## НАРОДНАЕ МЕРКАВАННЕ

**Як вы лічыце, чым будзе займацца Лукашэнка пасля таго, як пойдзе з прэзідэнцкай пасады?**



**ЦІНА, рэдактар:**
— На маю думку «шаноўны» Лукашэнка ў такім выпадку вернецца ў свой калгас. Але магчыма, што і не ў свой калгас, які ён у свой час амаль развaліў, а ў нейкі іншы. Тыя «гаспадарнікі», якія яго зараз падтрымліваюць, куды-небудзь яго ўладкуюць.



**АНДРЭЙ, менеджэр:**
— Паедзе ў калгас і будзе зноў ім камандаваць. Народ у нас добры, не будзе надта помсціць яму за тое, што ён нарабіў за часы кіравання дзяржавай. Усе падобныя крыўды ў нас чамусьці хутка забываюцца.



**ВІТАЛЬ:**
— Адпачываць ён будзе і кніжкі ўспамінаў пісаць. Хаця, я думаю, што зараз ён у адстаўку не сыдзе, утрымаецца ва ўладзе.



**СЕВЯРЫН, журналіст:**
— Чалавека за дваццаць гадоў да прэзідэнцтва звольнілі з дваццаці двух прац. Я думаю, што калі ён здолеў іх знайсці, то здолее яшчэ дваццаць дзве знайсці без цяжкасцяў. Але ж адпаведна будзе зноў звольнены. У Лукашэнкі, па-мойму, галоўны алімпійскі прынцып – галоўнае не перамога, а ўдзел.



**АЛЯКСАНДР, дырэктар ААТ «Чыстае паветра»:**
— Старшыня калгаса – і не вышэй!



**НАТАША, прафесійная швачка:**
— Вы мяне паставілі ў тупік гэтым пытаннем, бо я абсалютна не ўяўляю, чым ён можа ў прынцыпе займацца. Арганізуе калгас і пачне ўсё з самага пачатку!



**Алена, студэнтка:**
— Магчыма штонебудзь кшталту «вашывай блыхі» - прадпрымальніка? Хаця і калгасная будучыня – таксама верагодны варыянт.



**ВОЛЬГА, студэнтка:**
— Наш цяперашні кіраўнік працаваць? Неверагодна. А жыць – будзе, прыдумае што-небудзь уапошні час кіравання краінай, каб працаваць не прыйшлося.

**Апытанне правоодзілі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

# Вашынгтонскія сустрэчы

**Міхась КАРПОВІЧ**

Дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання і сябра аргкамітэта Хартыі'97 Людміла Гразнова нядаўна вярнулася са Злучаных Штатаў Амерыкі, куды ездзіла на вучобу – Дзяржаўны дэпартамент ЗША наладзіў навучанне міжнароднай групы па праграме «Правы чалавека і міжнародныя стасункі». Беларусь была прадстаўленая толькі Людмілай Гразновай.

Па словах дэпутаткі, паралельна з навучаннем правам чалавека ў яе таксама атрымалася другая праграма, прысвечаная менавіта праблемам Беларусі. У рамках гэтай праграмы ў Людмілы Гразновай адбылося шмат сустрэчаў у Дзяржлэпартаменце, Савеце бяспекі, Фондзе Сораса і іншых няўрадавых арганізацыях.

Як паведаміла нам Л.Гразнова, Дзяржлэпартамент ЗША і Савет бяспекі вельмі ўважліва сочаць за падзеямі ў Беларусі. На яе думку, невыпадкова, што афіцыйныя асобы гэтых арганізацыяў як мага хутчэй пасля беларускіх «парламенцкіх выбараў» сустрэліся з адным з удзельнікаў усіх гэтых падзеяў, што наладзілі байкот выбараў у ілжэпарламент.

Сярод адказных асобаў, з якімі сустракалася дэпутатка, былі Джон Армстронг — адказны за Беларусь у Дзяржлэпартаменце, Юджын Фішэл — дырэктар па справах Беларусі, Украіны, Еўразіі ў Савеце бяспекі, Дэн Фрыд — асноўны намеснік па палітыцы Новых Незалежных Дзяржаваў у Дзяржлэпартаменце, Бенэт Фрыман — намеснік сакратара па дэмакратыі і правах чалавека ў Дзяржлэпартаменце, а таксама Кэці Фіцпатрык — прэзідэнт Міжнароднай лігі па правах чалавека.

Было падкрэслена, што ЗША прызнаюць толькі Вярхоўны Савет 13-га склікання з Сямёнам Шарэцкім на чале, толькі што абраную палату прадстаўнікоў яны не прызнаюць легітымным парламентам.

Цяпер набывае значнасць аб'яднанне апазіцыі і вылучэнне ад апазіцыі адзінага кандыдата на прэзідэнцкія выбары. ■



Дэн Фрыд і Людміла Гразнова

# Сталіну рыхтуюць месца ў Свіслачы

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

Хутка закончыцца 2000 год, а помніка Сталіну ў райцэнтры Свіслач пакуль яшчэ няма. Але ў наступным годзе абавязкова павінен з'явіцца. Рэч у тым, што гэтак вырашыла сесія раённага Савета.

Параўнаўча нядаўна ў Свіслачы з'явіўся невялікі пастамент. Жыхары былі здзіўленыя – навошта ён? Аказваецца, на ім павінен стаяць бюст Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна. Высветлілася, што яшчэ ўлетку сесія раённага Савета вырашыла гэта большасцю галасоў. Толькі двое з дэпутатаў былі супраць.

Сталінскі бюст заманулася паставіць мясцовым ветэранам. Яны звярнуліся да ўладаў. Улады пайшлі насустрач. А каб не было шуму, рашэнне сфармулявалі нейтральна – «Аб стварэнні галерэі помнікаў у Свіслачы». Рашэнне гэтае не было апублікаванае ў мясцовай газеце, як гэта робіцца звычайна. Чыноўнікі баяцца гаварыць аб падрабязнасцях журналістам.

Я вырашыў звярнуцца да чалавека нейтральнага – старога мясцовага краязнаўцы Аляксандра Палубінскага. Аднак атрымалася, што ён мае непасрэднае дачыненне да гэтай гісторыі. Гады тры таму пасля рэканструкцыі плошчы перад райвыканкамам ленінскую статую вырашана было перанесці ў сквер, дзе стаялі помнік савецкім салдатам і аднаму з кіраўнікоў паўстання 1863 года – Рамуальду Траўгуту. Апошні пры Саветах быў пашкоджаны, але яго аднавілі на пачатку 90-х гадоў.

Ленін, дарэчы, выкананы быў вельмі халтурна. Да ўсяго яшчэ, па словах краязнаўцы, яму адломвалі галаву і рукі. Такім чынам, Уладзімір Ільіч апынуўся ззаду салдацкага помніка. А тут у саўгасе Вердамічы быў знойдзены сталінскі бюст. «Людзі захавалі яго, – зазначыў мне Аляксандр Палубінскі. – Таму і ўзнікла задума паставіць яго, каб не валяўся. Каб не знайшлі гатовы, думка зрабіць новы нікому б не прыйшла да галавы», – падкрэсліў мой суразмоўца.

Вырашана было зрабіць галерэю помнікаў, у тым ліку паставіць туды і бюст Кастуся Каліноўскага. Трэба сказаць, што адзіны ў краіне бюсцік кіраўніка паўстання, які быў бясплатна зроблены Заірам Азгурам, стаіць у Свіслачы, праз вуліцу ад помніка салдатам. Аднак ён вельмі прымітыўны. Таму вырашана зняць яго і перанесці ў музей. А з музея забраць іншы бюст Каліноўскага работы вядомага скульптара Грубэ.

У выніку абапал помніка Траўгуту, аздобленага польскімі арламі, на сёння з'явіліся два пастаменты. Справа ад яго паставяць таварыша Сталіна, злева – Каліноўскага. ■

**Радыё «Свабода»**

# Агітатары Дзед Мароз і Снягурачка

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

У навагоднюю ноч на галоўных плошчах горада маладыя людзі, пераапранутыя ў святых Міколаў, будуць раздаваць на ёлках... агітацыйную літаратуру і пераконваць моладзь у наступным годзе галасаваць за перамены. Такое рашэнне было прынятае на чарговым паседжанні кіраўніцтва маладзёжнай кааліцыі «Пераменаў», куды ўваходзяць некаторыя апазіцыйныя беларускія арганізацыі.

Прычым, як заявіў НАШАЙ СВАБОДЗЕ адзін з лідэраў «Пераменаў» Цімох Дранчук, хадзіць па горадзе ў ноч з 31 на 1-е будуць самі лідэры кааліцыі: ён, Павел Севярынец, Таццяна Алесіна і іншыя. Задуманае мерапрыемства (зусім не бяспечнае, дарэчы) па плане мусіць стаць пачаткам агітацыйнай кампаніі па прэзідэнцкіх выбарах. А падтрымліваць «Перамены» збіраюцца таго кандыдата, якога вылучыць Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў. Апроч гэтага, ужо цяпер маладыя рыхтуюць заяўку на дзень святога Валянціна на 14 лютага. Яны прапаноўваюць маршрут шэсця: плошча Свабоды – плошча Незалежнасці, і там мусіць адбыцца мітынг. ■

# Президентом стал республиканец Джордж Буш

*Окончание, начало на стр.1*

По словам Гора, он категорически не согласен с вердиктом Верховного суда США, который, по сути, и решил исход выборов, однако подчиняется ему.

«Я знаю, что многие мои сторонники разочарованы. Я тоже. Но любовь к нашей стране должна быть сильнее этого разочарования», - сказал Алберт Гор и призвал всех граждан США сплотиться вокруг нового президента. Гор также заявил, что сожалеет о том, что не смог остаться у власти для продолжения борьбы за благо американского народа. Особенно Алберту Гору жаль тех, кто «чувствует, что их голоса не были учтены», однако вице-президент сказал, что он слышит этих людей и их не забудет.

Без учета итогов голосования в штате Флорида у Гора было 267 голосов выборщиков, у Буша - 246. Штат Флорида располагает 25 голосами выборщиков, и в среду 13 декабря, более чем через месяц после всенародного голосования, выяснилось, что эти голоса отходят Джорджу Бушу. Таким образом, он получил 271 голос выборщиков и выиграл выборы. ■

# АБСЕ абараняе мінскую місію

**Рыгор БУЯН**

Заява Аляксандра Лукашэнкі пра «час перагледзець ролю і месца місіі АБСЕ ў Мінску» выклікала шмат адэкватных водгукаў на еўрапейскім узроўні. Услед за спецыяльным дакладчыкам ПА Рады Еўропы па Беларусі негатыўна выказалася старшыня Пастаяннага савета АБСЕ Ютта Штэфан-Бастл. Яе заяву 12 снежня распаўсюдзіла КНГ АБСЕ.

«Аўстрыйскае старшынства ў АБСЕ цвёрда ўпэўненае, што КНГ зможа і надалей іграць важную і карысную для Беларусі ролю. Захаванне дыялогу паміж АБСЕ і беларускімі афіцыйнымі ўладамі ды апазіцыйнымі палітычнымі сіламі мае важнае значэнне для аказання дапамогі ў пабудове добра функцыяніруемага грамадства».

Пасол Штэфан-Бастл «высока цэніць дзейнасць пасла Віка і КНГ і заяўляе пра падтрымку іх далейшай дзейнасці».

Відавочнае імкненне ўладаў напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у 2001 годзе «прыструніць» місію АБСЕ ў Мінску. Менавіта дзякуючы яе намаганням Еўропа не прызнае сфармаваную ў кастрычніку палату прадстаўнікоў. Дзейнасць КНГ АБСЕ ва існуючых умовах пагражае «прывесці» прэзідэнцкія выбары да такога ж лёсу. ■

# Палата па-за законам

**Юрась БАТУРА**

У другой палове студзеня ў Мінск прыедзе дэлегацыя Рабочай групы ПА АБСЕ па Беларусі. Напярэдадні паседжання пастаяннага камітэта ПА АБСЕ ёй неабходна правесці маніторынг і дакласці камітэту.

Пастаянны камітэт ПА АБСЕ, які збярэцца 21-23 лютага ў Вене, мусіць вырашыць: каго – новабраную палату ці «стары» Вярхоўны Савет 13 склікання – прызнаваць адзіным легітымным заканадаўчым органам? І якая з гэтых структураў, адпаведна, будзе прадстаўляць інтарэсы Беларусі ў ПА АБСЕ.

Відавочна, што сфармаваная ў кастрычніку палата №2 не мае ніякіх шансаў на прызнанне, як і яе папярэдніца – палата №1. Нават пасля антыканстытуцыйнага роспуску ВС ён вызнаваўся АБСЕ адзіным законным органам прадстаўнічай улады. Двойчы: 17 студзеня 1997 года ў Вене і 7 ліпеня 1998 года ў Капенгагене – пастаянны камітэт пацвярджаў паўнамоцтвы Вярхоўнага Савета.

Зразумела і тое, што лютаўскае паседжанне пастаяннага камітэта будзе прымаць рашэнне на аснове вынікаў місіі Рабочай групы па Беларусі АБСЕ ў студзені. Рабочую групу дагэтуль узначальвае прэзідэнт Парламенцкай асамблеі АБСЕ Адрыян Севярын. ■

 

# Жадаем жыць лепей?



**Міхал ЗАЛЕСКІ**

**Паміж жаданнем і мэтай ляжыць прорва, праз якую не кожны пераступіць. Таму жыццё вельмі моцна адрозніваецца ад навуковых схемаў. Яно не такое простае, як падаецца некаторым, а значна прасцейшае.**

Напрыклад, начальства змагаецца за макраэканамічныя параметры, а беларускі народ — за кавалак хлеба. Паасобку, здаецца, нармалёва. Разам — атрымліваецца ў нас абы-што. Давайце палічым.

Эканамічна актыўнага насельніцтва ў нас 45%. Амаль усе працуюць, бо толькі двое з кожнай сотні нідзе не лічацца занятымі. Афіцыйных беспрацоўных толькі 98 тысячаў. Узровень бадай самы малы ў Еўропе.

Далей пачынаюцца дзіўныя рэчы. З ліку занятых чатыры мільёны працавалі на прадпрыемствах і ў розных установах. Яшчэ 129 тысячаў працавала там жа па сумяшчальніцтве. Па ацэнках экспертаў, зробленых паводле апытанняў НІСПД (Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў), прыкладна 900 тысячаў грамадзянаў занятыя розным бізнесам. Дарэчы, падатковая інспекцыя налічвае гэткіх у дзесяць разоў меней. Каб канчаткова заблытацца, дададзім сюды энергічных пенсіянераў.

У той жа час мінстат налічвае, што сёлета блізка 3% занятых былі не надта занятыя на працы і амаль па месяцу прагулялі ў гэтак званым рэжыме няпоўнага рабочага тыдня. Яшчэ амаль 5% працоўных атрымалі прымусовы адпачынак і знаходзіліся ў ім па 16 дзён кожны. Разам атрымліваецца тры з палавай мільёны чалавека-дзён. Кожны трэці з гэтых бедакоў ніякіх грошай за нечаканы адпачынак не атрымаў.

Марнаванне працоўнага часу па сваёй волі не ёсць адметнай рысай працаўніка-беларуса. На 1.000 занятых у прамысловасці прыпадае ўсяго 56 парушальнікаў рэжыму утрымання. З 4,4 мільёна занятых у эканоміцы прагулялі сёлета работу 130 тысячаў чалавек. За п'янку на працоўным месцы было пакарана 33 тысячы. Начальства ў нас з народа, таму звольнена за парушэнні толькі 30 тысяч чалавек.

Варта адзначыць не надта моцную, але непрыемную тэндэнцыю: агульная колькасць звольненых па ўсіх прычынах на 5% болей за колькасць нанятых на працу. Летась гэты паказчык складаў адзін адсотак. На малюнку добра відаць сезонныя ваганні вакансіяў і тое, што колькасць беспрацоўных не расце.

Шукаюць беларусы сабе занятак пераважна самі, але крыху меней за трэцяю частку знаходзяць працу праз дзяржаўную службу занятасці. Гэтая ж служба ўлічвае і беспрацоўных. Колькасць апошніх на першае лістапада перавышала леташнюю на 2%. Жанчыны складаюць 61% беспрацоўных, моладзь (да 30 гадоў) – 55%. Асабліва непрыемна, што 17% беспрацоўных – выпускнікі навучальных установаў.

Мы жывем у вольнай цывілізаванай і дэмакратычнай краіне, таму беспрацоўныя атрымліваюць дапамогу. Але не ўсе. А каб тыя, што атрымліваюць, не раз'ядалі каркі на народныя грошы, у кастрычніку ім далі па 3.699 рублёў, альбо 5% ад сярэдняй заработнай платы. Тая сярэдняя заработная плата ў сваю чаргу нават на чвэрць не перавышае мінімальны спажывецкі бюджэт.

Гэта значыць, што дзяржава хлусіць 42.000 сваіх беспрацоўных грамадзянаў, калі робіць выгляд, што дапамагае ім. У сваю чаргу грамадзяне хлусяць дзяржаве, што жывуць на тыя грошы.

Чаму ж яна, гэтая дзяржава такая бязглуздая? Гэта мы такую зрабілі, але жадаем жыць лепей. ■




# Аўсянка без бекону

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

**Сёлета дзяржзакупкі аўса амаль падвоіліся і склалі 193% ад мінулагодняга. Праўда, пшаніцы засыпана ў дзяржсусекі амаль удвая меней, усяго 56%. Але авёс — таксама збожжа. Ядуць жа яго англічане кожным ранкам.**

Гэта, канешне, не можа не радаваць. Таксама як і тое, што пад будучы ўраджай павялічаны пасевы такіх прагрэсіўных культур, як рапс і трыцыкале, што павялічыць забяспечанасць кармамі ўмоўную галаву скаціны. Вось толькі колькасць рэальных, а не ўмоўных галоваў стабільна скарачаецца. Свіны статак, прыкладам, за год паменшыўся на 6%, а ў кастрычніку закупкі скаціны і птушкі ў грамадскім і прыватным сектары скараціліся ў параўнанні з кастрычнікам мінулага года па краіне ў цэлым на 13%, а ў Віцебскай і Магілёўскай абласцях — на 25% у кожнай. Таму, на жаль, бекону да аўсянай кашы ўсім не хопіць.

У прамысловасці свае беды, і цяжка сказаць, што сітуацыя там лепшая, чым у сельскай гаспадарцы. Трактароў, прыкладам, зроблена на 14% меней, чым у студзенi-кастрычніку мінулага года. А тым часам запасы гатовых машын на завадскіх пляцоўках з пачатку года павялічыліся на 16% (5,1 тысячы машын, што болей чым у 2,5 разы перавышае сярэднямесячны аб'ём вытворчасці). Адкуль жа будуць грошы, калі зробленае ніхто не купляе. Дзе іх узяць, каб выканаць загад Лукашэнкі аб падняцці сярэдняга заробку да 100 долараў. Каб заплаціць падаткі, без чаго немагчыма падвысіць заробкі бюджэтнікам. А яны патрабуюць.

Год таму мы былі беднымі, таму што доля харчовых тавараў у структуры рознічнага гандлю складала 55%, што ў два і болей разы вышэй, чым у любой сучаснай (у сэнсе сацыяльна-эканамічнага развіцця) краіне. А зараз сталі яшчэ больш беднымі, таму што «харчовая састаўляючая» крамнага тавараабароту падвысілася супраць мінулагодняга да 66 %.

Гэта дрэнна, бо сведчыць аб галечы насельніцтва. А з другога боку, паказвае, што не мае перспектывы развіццё прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці. Бо ў самой структуры купляемага насельніцтвам харчавання скарачаецца доля мясной і малочнай прадукцыі, а месца якасных, паўнавартасных у сэнсе фізіялагічных патрэбаў чалавечага арганізма, займаюць якасныя і больш танныя. І гэта добра яшчэ, што ў нас амаль кожны — доктар бульбаводства, а бабулькі трымаюць скаціну да апошняга дня зямнога існавання.

Сумна і тое, што ў разрад прадметаў раскошы трапілі мыла і пральныя сродкі. Але і ў гэтым ёсць заканамернасць, бо паслугі, з якімі звязанае ўжыванне мыла, у кастрычніку значна падаражэлі: каб памыцца ў лазні, трэба плаціць на 6-9% болей, каб памыць бялізну ў пральні — на 16,3. Тут, маючы нават абяцаныя Лукашэнкам 100 долараў заробку, надта не разгонішся, трэба ашчаджаць выдаткі.

Але насамрэч у кожнага медаля два бакі. Хоць і не па кішэні насельніцтву «новый *Comet*», чысціню цела можна захаваць і з дапамогай мыла гаспадарчага.

А вось тое, што продаж тэлепрыемнікаў скараціўся на 35%, нейкім чынам радуе. Бо гігіена свядомасці — рэч такая ж важная, як гігіена цела. А чым меней у насельніцтва спраўных «скрынак», тым меней «рэзананснага» бруду асядае ў мазгах людзей. ■



## КВІТАНЦЫЯ ДЛЯ «БЕЛАРУСБАНКА»

**Форма № ПД-5**

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

УНН 101562750 **Редакция газеты «Наша СВАБОДА»**
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя **3012205160015** Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(индекс) (адрес)

На 2001 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**За подписку на газету «Наша СВАБОДА»** Сумма

Пеня

Плательщик Всего

Кассир

УНН 101562750 **Редакция газеты «Наша СВАБОДА»**
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя **3012205160015** Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество, адрес)

На 2001 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**КВИТАНЦИЯ**

**За подписку на газету «Наша СВАБОДА»** Сумма

Кассир

Пеня

Плательщик Всего

ВЁСКА

# Пока есть финансирование — деревня проживет

На вопросы корреспондента НАШАЙ СВАБОДЫ отвечает председатель правления Белорусского союза фермеров ЕРМОЛЕНКО Константин Михайлович.

***— Сколько вообще сегодня в Беларуси фермерских хозяйств?***

— Примерно 2.700. Фермеры занимают 1% земли, на которой они, согласно статистике, производят 1% от валового производства сельскохозяйственной продукции. Сколько они производят реально — сказать трудно, поскольку далеко не вся произведенная ими продукция учитывается официально.

***— Как вы оцениваете продление срока перерегистрации колхозов до 1 января 2003 года?***

— Думаю, что у колхозов слишком много разных проблем, и решение обязать их пройти перерегистрацию немедленно не вызвало бы ничего, кроме глухого раздражения как самих колхозников, так и руководителей на местах. Поэтому было принято компромиссное решение: перерегистрировать колхозы надо, но необходимо дать им время сделать это без спешки, не торопясь.

***— Влияет ли, на ваш взгляд, отсутствие частной собственности на землю на желание крестьян стать фермерами?***

— Я считаю, что нет. Дело в том, что отношения собственности в традиционном их понимании возникают при соответствующих обстоятельствах и условиях. Я понимаю, что на каком-то этапе в обществе может возникнуть такая идея, но она должна опираться на здравые основы. Сегодня, когда существует три тысячи человек, которые потенциально претендуют на введение института частной собственности на землю, она не возникнет. Для того, чтобы частная собственность на землю стала реальной необходимостью, нужно не три, а, предположим, сто три тысячи фермеров. Тогда начнутся реальные экономические и законодательные процессы. Пока нет рынка — нет ни спроса на землю, ни необходимости законодательного решения этой проблемы.

***— То есть, вы хотите сказать, что общество еще не дозрело до этой идеи?***

— Смотрите сами: Верховный Совет 12 созыва инициировал вопрос о введении института частной собственности на землю. Но как только возник этот вопрос, сразу же возникла масса других проблем: а где моя доля? а где мой пай? А почему мне дают 20 гектаров земли, а соседу — 30?..

***— Много ли, на ваш взгляд, крестьян, которые могли бы сегодня успешно вести фермерское хозяйство?***

— Я думаю, что таких людей сегодня очень мало, примерно один из ста. Настоящих фермеров надо готовить специально, обучать, помогать им. Пока же это, увы, невозможно. Сегодня очень небольшому количеству фермеров приходится решать весьма сложные задачи. У нас практически не развита кооперация в силу того, что самих фермеров мало и живут они на большом удалении друг от друга, проблему ремонта техники им приходится решать собственными силами, далеко не всегда удается достать качественный посевной материал.

***— Как вы оцениваете сегодняшнее состояние белорусского сельского хозяйства?***

— Пока еще денег белорусских налогоплательщиков хватает на то, чтобы финансировать посевные и уборочные кампании, но ведь всему рано или поздно приходит предел. Да и нужно ли это? На наших глазах разрушаются основы нашей системы сельского хозяйства прежде всего потому, что к нам все в больших масштабах завозятся и будут завозиться российские и западные продукты питания, которые дешевле, качественней, лучше упакованы. Общеизвестно, что реформы требуют денег, а сегодня нет ни денег, ни техники, ни возможностей. Для людей, живущих в сельской местности, единственным спасением становятся личные подсобные хозяйства. Что ж, реформы на такой основе не требуют никаких денег, потому они и удобны. На более серьезные преобразования у нас уже денег нет. ■



Фота IREX/ProMedia

# Старые пружины Азарёнка и К°

*Окончание, начало на стр.1*

**Справка**

Владимир Довженко, журналист, проработал на БТ 23 года, бывший автор и ведущий телеклуба «Асілак»

Что еще можно вот так сходу припомнить? Пожалуй, все. Да, играл какое-то время в теннис, пока не отлучили от главного корта страны. На коньках, правда, замечен не был, видимо, по причине того, что в пору его проживания в городе на Днепре там еще не было ледового Дворца; был энергичным, постоянно куда-то ездил, двигался. Но ведь не всякое движение есть прогресс. Порой в движении можно и загнивать!

Именно при человеке с большой культурой из Могилева вожделенным для почти каждого телевизионщика стало попадание в элитное АТН с его кормушкой, евротуалетом и другими сопутствующими «Слушаю-с!» и «Одобрям-с!». Хотя всяк входящий туда искренне считал себя человеком передовых взглядов и уже точно творческой личностью, что сплошь и рядом сквозило с экрана. Чего стоит, например, авангардно-спортивное «Бывайце здаровы!» или почти оппозиционное «Жывіце багата!»

Остальное большинство получало жалкие копейки бумажными зайчиками и ожидало приход нового телемессии.

Все телевидение быстренько превратилось в радиовещание, в единое ток-шоу, где все только и делали, что токали и токали; одни и те же «цветы» нации, гости и герои многочисленных двойняшек-программ только и успевали, что перебегать из одной студии в другую, из утренней передачи в вечернюю и наоборот. Все скоренько перезнакомились, благо почти все происходили из одного и того же района или – на худой конец – принадлежали к населению определенной области, щедро дарившей стране гениев, государственных деятелей, депутатов и просто земляков. (Кстати, вот и верь после этого Нострадамусу, бездарно проморгавшему в своих катренах влияние на мировую историю одной маленькой, по гордой «синеокой» с 20 долларами инвестиций на жителя и с огромнейшим Шкловским районом.)


Беларускае тэлебачанне пры Кісялі


Беларускае тэлебачанне пры Чыкіне

Как на ксероксе, множились всякие дожинки, базары иространи, но ничего нового, национального ни на первое, ни на второе совсем не просматривалось. «Конгениальные» находки безжалостно сдирались с телеканалов других стран, порой забывали даже перекрыть в эфире авторский логотип. На халяву пожирали то, что владельцы авторских прав уже давно выкинули. Ежедневный канал превратился в сплошную «Панораму», и каждая фраза обязательно начиналась с «Сёння прэзідэнт Беларусі...»

Некогда гордые, во времена Кебича и Шушкевича, чайки покорно склевывали корм с рук, напрочь забыв про морские дали перестройки.

БТ быстро приобрело прежнее лицо двадцатилетней давности.

С каким треском, гамом и просто так за компанию пять месяцев тому врывался в каждый дом первый национальный! А ведь ничего нового никто не увидел. Те же самые старые песни о старом, сплошной премьер-парад тех же барахтов в луже бухты.

Правда, у «Резонанса» появился столь же порочный младший брат - хит давно озаренного режиссера. Оно и понятно. На переправе лошадей не меняют, к ним стремятся добавить еще. Кто следующий? Ведь у отца, как в той сказке, было три сына... Появился и третий. Некий политолог Новиков. Теперь по славянскому обычаю соображают на троих! Хотя каждый мнит себя царевичем.

О коллегах, хотя и бывших, наверное, как и о покойниках, следует говорить хорошо или ничего... Нечего! И я понимаю: не следует стрелять в пианиста — мелодию сочиняет вовсе не он. Но играть такое... А скоро ведь грядет близнец «второй национальный».

Непреходящий анекдот. Во времена Андропова усталый, но голодный трудящийся приходит после партсобрания домой. Пока жена возится на кухне, включает «ящик». Выступает генсек, второй канал – тоже он, третий – снова Андропов. Переключает на самый последний, а там – полковник КГБ: «Я тебе попереключаю!» Смешно? Мне не очень.

Лучше не включать — ни единственный пока первый, ни второй, когда скопируют с первого. Здоровее будете! ■

ПРЭЗЕНТАЦЫІ

# Народжаным тут

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

19 снежня ў канцэртнай зале «Мінск» пройдзе прэзентацыя супольнай праграмы беларускіх рок-музыкаў са здумленай і дасціпнай назвай «Я нарадзіўся тут». Гэты альбом патрыятычных песень ад класікі да тых, што з'явіліся толькі сёлета, спрэс перапоўненыя шлягерамі, і будзе дужа дзіўна, калі праз паўтара месяца на традыцыйна студзеньскай «Рок-каранацыі» ён нейкім чынам не стане «Лепшым праектам 2000 года».

«Я нарадзіўся тут» – пасля «Песнярка» з перапеўкамі «Песняроў», вытанчанага «Народнага альбома» і каляднага «Святога вечара» ўжо чацвёрты супольны музычны праект. Альбом, мецэнатам якога стаў уладальнік буціка «Camilla», што на праспекце Машэрава, Алесь Суша, запісаны ў студыі забароненага «Радыё 101,2» пры ўдзеле ўсё тых жа — «Н.Р.М», «Крыві», Аляксандра Крывашэева-Памідорава і іншых. Вокладку кампакт-дыска афармляў Алесь Пушкін. На канцэрце праграму «Я нарадзіўся тут» можна будзе не толькі паслухаць жыўцом, але і забраць у запісе дадому.

Сюды ўвайшла 21 песня: пераважна па-мадэрноваму перааздобленыя ўсім вядомыя гімны, маршы, лірыка, але ёсць таксама некалькі аўтарскіх песень. Па-новаму прагучаць, напрыклад, такія класічныя рэчы, як «Пагоня» (яе выкананне цяпер будзе асацыявацца не толькі з Данчыкам), «Магутны Божа», «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», паланез «Развітанне з Радзімай» Агінскага на тэкст Сокалава-Воюша (яго, між іншым, ужо некалькі месяцаў круцяць на радыёстанцыях). Апрача гэтых патэнцыйных гімнаў Беларусі, арыгінальна перааапрацаваныя «Люблю наш край», «Нёман», «Радзіма мая дарагая», «Зорачкі», «Бывайце здаровы», скрадзеная і перасяпаваная расейцамі. Ёсць яшчэ народныя песні, беларускамоўная версія вядомай *The house of the rising sun* гурта *Animals*, рэпавая кампазіцыя Аляксандра Памідорава «Крывавае свята» пра трагедыю на Няміэе, якая трохі вытыркаецца з альбома, бо не зусім у духу ягонай канцэпцыі. А наогул пералік досыць шыкоўны, таму, здаецца, слухальнасць зборніку «Я нарадзіўся тут» загадзя гарантаваная.

Між тым не выключана, што ў некаторых рэакцыя на адвольнае абыходжанне з беларускай музычнай класікай можа стацца не дужа вітальнай. Аднак, напрыклад, Лявон Вольскі спадзяецца, што нават «жывыя аўтары альбо іхнія спадкаемцы з пэўным гумарам альбо спачуваннем паставяцца да таго, што мы зрабілі».

Праект «Я нарадзіўся тут» са сваім незанудным патрыятычным зместам разлічаны збольшага на моладзь. Аляксандр Памідораў гаворыць, што асноўная задума праекта ў тым, «каб старыя песні былі ўспрынятыя зараз як сучасныя, а не выглядалі архаічнымі, каб можна было ўзяць гітару і спяваць іх». Мяркую, з вечара 19 снежня многія гэтак і будуць рабіць. ■

# Ці гараць нашыя рукапісы?

## Беларускія літаратары і сучасны літаратурны працэс

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

*За што змагаліся, як*
*баранілі веру, –*
*Хай зведаюць усе патомкі*
*праз паперу!*
*(М.Багдановіч)*

По сутнасці ўся беларуская літаратура сёння знаходзіцца ва ўнутранай змушанай эміграцыі. Падобны стан, дарэчы, вельмі трапна апісаў яшчэ ў часы перабудовы паэт Л.Дранько-Майсюк.

*Сто англій і дзвесце францый*
*Ніякай сваёю сілай*
*Не зробяць з мяне эмігранта,*
*А наша жыццё зрабіла.*

Акт самой гэтай сённяшняй «эміграцыі» заключаецца ў тым, што ў сілу аб'ектыўных прычынаў творца змушаны перасяляцца і «жыць» у сваім ілюзорным мастацкім свеце, паколькі ў рэальным свеце могуць «жыць» толькі яго, адпаведныя і задавальняючыя гэты свет, тэксты, якія ён піша найперш дзеля хлеба надзённага і ўласнага фізічнага выжывання ўвогуле...



Безумоўна, што ёсць «эмігранты» сапраўдныя. Я маю на ўвазе тых, хто на доўгі тэрмін пакінуў радзіму з іншых прычынаў. Да прыкладу, Васіль Быкаў і Уладзімір Някляеў. Вялікі наш пісьменнік і галоўны. Апошні, ён жа старшыня СБП, чамусьці ўскладае ўсе свае сённяшнія беды на паскудныя «сяброўскія ўзаемаадносіны». У адным з бясконцых сваіх інтэрв'ю Някляеў укладвае ў вусны Быкава такі выраз: «Калі ў цябе ёсць дзесяць сяброў, дык мяркуй, што дзевяць з іх цябе прададуць. А лепш думай, што ўсе дзесяць». М-да, не пазайздросціш іхнім сябрам... Нездарма ж і сам Някляеў жахаецца падобнага адказу мэтра і ў роспачы задае Быкаву яшчэ адно «талстоўскае» пытанне: «Дык як тады жыць, Васіль Уладзіміравіч?» На што мудры, як змій, Быкаў проста і па-сялянску кажа яму, як нявопытнаму пацану: «А так і жыві».

Зрэшты, залішне на пустым зацыкліваца не будзем, бо ў адрозненне ад некаторых – жылі, жывём і далей жыць збіраемся... Якім чынам? – так, вядома, цікавае, але ўжо зусім іншае пытанне.

Не праведнікі. Грэшныя. Але сумленныя ў сваёй споведзі. Каму спавядаемся? Богу свайму, мастацтву ды айчыне...

Таму шчыра зазначым, што найбольшыя набыткі вызнала наша літаратура ў часы перабудовы. Менавіта тады адкрываліся новыя і забытыя імёны, друкавалася тое, што доўга захоўвалася ў спецхранах і ў цёмных закутках уласных пісьмовых сталоў, наўпрост пісаліся шмат якія таленавітыя рэчы... Помняцца, як адкрыццё, – і «Дзве душы» М.Гарэцкага, і «Споведзь» Л.Геніюш, і «Свая аповесць» Б.Мікуліча, а таксама – выхад у свет 8-томнага збору твораў Ул.Караткевіча, 3-томніка М.Багдановіча, новых твораў В.Быкава – «У тумане», «Аблава», «На чорных лядах», з'яўленне ў афіцыйным друку эміграцкіх літаратараў – Арсенневай, Юхнаўца, Сяднёва, Акулы...

А колькі новых імёнаў паўстала з той «бурапены»: «Ул.Арлоў, К.Тарасаў, А.Сыс, А.Мінкін, А.Федарэнка, С.Сокалаў-Воюш, А.Глобус, А.Наварыч, А.Чобат... Амаль усе яны і па сёння плённа працуюць у нашай літаратуры і прыўкрашваюць яе здабыткі.

Беларусь нарэшце пачала збіраць да купы свой свядомы народ, які, па прарочых словах М.Багдановіча, усё ж «дачакаўся залацістага яснага дня». І творцы з гэтага народа змаглі прылюдна перад усім светам заяўляць і ганарыцца сваёй афіцыйна здабытай Айчынай...

Настала бескантрольная падсвядомая эйфарыя ад свабоды і незалежнасці. Пачала набіраць тэмпы беларусізацыя. Помніцца нават, як некаторыя захмеленыя вершатворцы выхваляліся, што змушалі міліцыянераў звяртацца да іх толькі па-беларуску. Я ведаю, што ў большасці з іх яшчэ і па сённяшні дзень у сямейных стасунках дамінуе руская мова. У гэтым лёгка ўпэўніцца, патэлефанаваўшы ім дахаты па новым даведніку СБП...

Аднак трэба заўважыць, што з прыходам да ўлады Станіслава Шушкевіча ў творчым асяроддзі пайшла непрыкрытая змагарная барацьба за пасады, чыны, званні і ўзнагароды... Кажучы словамі Віктара Карамазава, пачалася «дзяльба кабанчыка». Хто меў бліжэйшы доступ да «цела» і канцылярыі Ст.Шушкевіча (не забудзем, што і ягоны бацька быў дзіцячым пісьменнікам), той і атрымаў сваю грамату, медаль альбо народнае званне...

Але крый вас Божа быць народным пісьменнікам ці паэтам! Яшчэ даўнія класікі літаратуры засцерагалі творцаў «от потрафления черни». А то на сённяшні дзень, скажам, медалём Ф.Скарыны ўзнагароджаны і Янка Брыль і Барыс Ельцын, першы – Шушкевічам, а другі – Лукашэнкам...

Таму не дзіва, што менавіта з сярэдзіны 90-х пачалося самазадавальненне дасягнутым і бясконцае святкаванне эфемернай перамогі: не сціхалі казанні нацыянальных «апосталаў» над нястрымны акорд «салаўінага» пошчаку... Пакуль мы цешыліся, на аб'едках постсавецкага застолля (Дом літаратара грымеў чаркамі і талеркамі амаль штодня), выкарміўся сённяшні мутант, пасля ўсенароднай выявы якога вяселле выйшла вонкі, «на шырокі прастор», а ў самім эпіцэнтры літаратуры стала страшна і вусцішна. Неўзабаве ж пісьменнікі і ўвогуле засталіся без свайго Дома. Цяпер яны ходзяць туды зрэдзьчасу на свае Рады, нераўнуючы як вертыкальшчыкі ў райкамы. Цяпер у іх там сходы, імпрэзы і вечарыны толькі з ведама і згоды «мутантаната»...

Зваротныя працэсы пачаліся з лета 1994 года. Рэферэндумы. Двухмоўе, змена сімволікі. Адбылася не толькі змена ўлады, але і змена самога ладу суверэннага беларускага жыцця, якое не паспела яшчэ дарэшты аформіцца і ўсталявацца за кароткі час свайго постсавецкага існавання.

Мабыць, яшчэ год ці два беларускія літаратары па інерцыі працягвалі гнуць у сваіх творах лінію як уласна творчай, так і дзяржаўнай самастойнасці. Засталіся ў памяці акцыі паэта Славаміра Адамовіча, якія ўлада вельмі прафесійна скарыстала падчас рэферэндуму для сваіх мэтаў. Помная барацьба за беларускі ліцэй – у адрозненне ад Дома літаратара, у пэўнай меры адратаваны, ды паасобныя творы некаторых пісьменнікаў.

Аднак, усё пачало згасаць хутка і відавочна. І сімволіка з пінжакоў ярых адраджэнцаў, і франтавы агонь з вачэй нацыяналістаў і патрыётаў, і дух свабоды і вальнадумства з большасці літаратурных тэкстаў... Я маю на ўвазе найперш дзяржаўныя літаратурныя выданні, хоць тое не абмінула, праўда, у меншай ступені, і незалежныя часопісы і газеты.

І хоць Саюз беларускіх пісьменнікаў узрос ажно да 500 членаў, наклады яго выданняў абрынуліся ўніз рэзка і беспаваротна. Так, яшчэ друкуюцца там да гэтага часу творы з нацыянальнай і адраджэнскай падсветкай, але ж мы вядзем размову пра мастацкую літаратуру. Ды, шчыра кажучы, і тэкстаў вышэй згаданага кшталту ўжо нестае.

Творчыя людзі пачалі ўсаджвацца на «указанные им места». У кожнага – сям'я, амбіцыі, перспектывы, таму лепш спакойна перачакаць няпэўны час (мая хата з краю), чым лезці ў пекла папярод бацькі... Адным словам, беларускі нацыянальны менталітэт, у рэшце рэшт, выявіў сябе напоўніцу...

Але не ўсё так блага і адназначна. Увесь гэты «лукавецкі час» заставаліся вернымі сваім чалавечым і творчым прынцыпам такія пісьменнікі і паэты, як Барадулін, Пташнікаў, Арлоў, Чобат, Купрэеў, Станкевіч, Федарэнка, Наварыч, Алексіевіч, Адамчык, Дамашэвіч, Быкаў, Мінкін, Дубавец, Тарасаў, Гілевіч, Тычына, Брыль, Мацяш, Казько, Чаропка, Конан, Мудроў, Сідарук, Вярцінскі, Бічэль, Казловіч, Разанаў, Акудовіч...

Пералічыў тых, безумоўна, каго чытаю і больш ці менш ведаю. Вядома, што ў нечым пералік гэты суб'ектыўны. Што ж, прашу прабачэння ў тых, хто не толькі адносіць сябе да гэтай кагорты, але і адпаведна заяўляе пра сябе ў нашай літаратуры і грамадскім жыцці...

Паспрабую коратка адзначыць і найбольш вартыя і вядомыя літаратурна-мастацкія і культурніцкія праекты апошняга часу.

У 1987 годзе ўзнікла суполка маладых літаратараў «Тутэйшыя», дзейнасць якой нарабіла шмат шуму вакол сябе, але адыграла ў беларускім грамадстве сваю нацыянал-патрыятычную ролю і выявіла, у рэшце рэшт, са сваіх шэрагаў каля дзесятка выбітных таленавітых літаратараў. Да прыкладу, А.Сыса, А.Глобуса, Л.Рублеўскую, П.Васючэнку, І.Бабкова, С.Кавалёва і некаторых іншых, ужо ўпомненых мною вышэй. Плёнам іх працы сталася выданне літаратурнага зборніка з аднайменным назовам – «Тутэйшыя». Але большасць сябраў таварыства неўзабаве «пакваплілася» на тадышнія, яшчэ дзейныя, прывілеі членаў СП БССР і ўлілася ў шэрагі гэтага пісьменніцкага монстра, і на тым дзейнасць таварыства скончылася.

У 1993 годзе гэтае – свабоднае і вакантнае – месца заняло Таварыства Вольных Літаратараў, заснаваўшы пры гэтым і сваё выдавецтва «Полацкае ляда». Таварыства па сутнасці існуе да сённяшняга дня. Яго маторам і ідэолагам з'яўляецца паэт Алесь Аркуш. Найбольш істотныя праявы гэтага праекта – літаратурны альманах «Калосьсе» (зусім нядаўна пабачыў свет яго восьмы нумар) ды шматлікія зборнікі прозы і паэзіі не толькі сяброў ТВЛ, але і тых аўтараў, якія не мелі магчымасцяў для выдання сваіх твораў пры цяперашнім рэжыме. ►

*Заканчэнне ў наступным нумары*

# Пеле, Марадона, Зідан...

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Сусветная федэрацыя футбола абвесціла вынікі працяглага вызначэння лепшых у гэтым відзе спорту па розных намінацыях.**



Так, лепшым футбалістам года стаў француз, ігрок італьянскага «Ювентуса» Зенэдзін Зідан. Разам з плэймэйкерам Зіданам зборная Францыі за апошнія тры гады стала пераможцам еўрапейскага і сусветнага першынства, а сам Зідан прызнаецца лепшым футбалістам свету ўжо другі раз. Усяго на пяцьдзесят балаў Зідан апярэдзіў партугальскага плэймэйкера Луіша Фігу і значна больш бразільца Рывалда.

Лепшай камандай года прызнаная зборная Нідэрландаў, якая заняла на апошнім чэмпіянаце Еўропы трэцяе месца.

Гарачыя спрэчкі разгарэліся вакол вызначэння лепшага футбаліста стагоддзя. Меркавалася, што пераможцам стане легендарны бразілец Пеле, але, згодна з апытаннем балельшчыкаў, больш балаў набраў вялікі і скандальны аргенцінец Дыега Марадона. І тады ФІФА вырашыла абвесціць лепшымі абодвух экс-футбалістаў. Ведаючы характар Марадоны, можна было здагадацца, як ён адрэагуе. І ён не падмануў чаканні, аб'явіўшы, што лепшы — толькі ён адзін і з ніякім Пеле дзяліць лаўры пераможцы не жадае. Пасля гэтага Дыега пакінуў зал без узнагароды.

Лепшай камандай стагоддзя абраны легендарны мадрыдскі «Рэал», які ў сярэдзіне стагоддзя пяць разоў запар выйграваў галоўны клубны трафей – Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў. ■

# В новый век – с фантастическим рекордом!

Владимир ДОВЖЕНКО

Интересно, знаете ли вы, кто из жителей Беларуси больше всех попадал за свои достижения на страницы всемирно известной Книги рекордов Гиннесса? Увы, это не прославленные олимпийские чемпионы фехтовальщики Елена Белова, Татьяна Самусенко, Александр Романьков, штангист Леонид Тараненко и даже не автор «Гобелена века» художник Александр Кищенко... Их фамилии значатся в ней по одному разу. А вот владельцем сразу трех дипломов Гиннесса является пожарный из Могилева Александр Бендиков. Вот его достижения:

1994 год. Башня из домино, установленная на ребре одной доминишинки, общее количество – 523 штуки.

1995 год. Башня из 888 монет, установленных на ребре одной монеты.

1997 год. Пирамида из пивных пробок общим количеством в 410 тысяч 40 штук.

Кстати, его первый рекорд недавно побили немец (529) и американец (547), но наш земляк планирует в самое ближайшее время восстановить реноме, построив башню из 555 доминишек.

Попасть в популярную Книгу очень трудно, ведь каждый год количество заявок на «увековечение» рекорда превышает 10 тысяч. Более того, желательно вначале сделать запрос, и если такая номинация есть, то вам пришлют уведомление, что можно приступать к сотворению чуда.

Три своих шедевра официально «забросил» на лондонскую Бейкер-стрит наш знаменитый Вячеслав Хоронеко, но до сих пор не получил официального ответа-подтверждения, хотя пунктуально выполнил все условия дотошных англичан: запрос-подтверждение – фото-видеокадры, газетные материалы. Один из рекордов – подъем гири в течение суток – скорее всего не будет утвержден, ведь кроме братьев-славян понятия о гире и гиревом спорте никто там у них не имеет. Ну, а две молодецкие забавы с пивным бочонком просто обязаны появиться на гиннесских страницах.

Два года назад Вячеслав поднял над головой за шесть часов пивной бочонок весом в 63,5 килограмма аж 925 раз, перекрыв результаты датчанина и немца (соответственно 868 и 920 раз). Интересная деталь. Вячеслав высмотрел в Книге рекорд Ольсена, установленный им 10 лет назад, и дал запрос. Получив «добро», тихонько готовился, рассчитывая на итог в 870 подъемов, как вдруг за сутки до объявленного срока выступления пришел из Англии факс, где сообщалось о новом рекорде немца. Пришлось поднатужиться. Результат известен!




Год назад, когда все нормальные люди шумно встречали миллениум, 37-летний минчанин в своем стиле отпраздновал это событие. 31 декабря ровно в полдень он поднял над головой 40-килограммовый кег с пивом и ровно через 24 часа, уже в полдень 1 января, взметнул ставший почти родным кег в последний раз. Всего их было 3 тысячи 150! И в общей сумме веса получилось совсем не хило: аккурат 126 тонн! Ну уж если «англичане» и этот рекорд не засчитают... Видать, до сих пор помнят и боятся они тульского кузнеца так, что наших «блох» не замечают!

Однако, где-то можно понять и их: ведь в штате редакции работают всего несколько человек. Да, да! Это запросто может подтвердить генеральный директор РАО «Белаттракцион» Александр Калинин, официальный представитель Книги рекордов Гиннесса в Беларуси, который гостевал в туманном Альбионе, специально доставил им документацию, *etc* Славиного суточного рекорда.

Как бы там ни было, белорусский богатырь готовит заморским коллекционерам еще одну «бомбу». Новое тысячелетие он готов встретить опять... с пивом. Только уже поднимать кег будет не 24 часа, а 36! И срок этот истечет ровно, образно говоря, под бой курантов.

Вячеслав Хоронеко: «На сегодняшний день мне принадлежат 94 национальных и мировых рекорда по поднятию тяжестей. На новый год хочу превысить два «старых» достижения (12 часов – тысяча 800 подъемов, сутки – 3.150), и еще одним, новым, дай Бог, станет 36-часовой марафон. Тренироваться начал с октября. Если говорить о результате, думаю поднять не менее четырех тысяч раз!»

Наша газета будет регулярно сообщать вам о подготовке Вячеслава Хоронеко.

А теперь – внимание! Мы учреждаем специальный и очень дорогой приз для того из вас, кто точно (а вдруг!) или ближе к итогу укажет результат.

Специальный купон для участия в конкурсе и его условия мы опубликуем лишь в одном номере газеты в ближайшее время. Будьте внимательны!

Читайте НАШУ СВАБОДУ по понедельникам, средам и пятницам. ■



# Няспраўджаныя спадзеі

Уладзімір ДАЎЖЭНКА

У нядзелю стане вядомы пераможца чэмпіянату Еўропы па ручным мячы сярод жаночых камандаў у Бухарэсце. Але спачатку пройдуць паўфінальныя паядынкі Украіна–Расія, Венгрыя–Румынія і стыкавыя сустрэчы астатніх зборных, якія разыграюць месцы з пятага па дванаццатае.

Гандбалісткі Беларусі ў апошнім матчы ў сваёй папярэдняй групе згулялі ўнічыю – 27:27 – з украінскімі спартсменкамі. Гэта быў трэці нічыйны вынік нашых жанчын у групе. Яшчэ дзве гульні яны прайгралі і занялі апошняе шостае месца.

Шчыра кажучы, усе мы чакалі іншы вынік і спадзяваліся на лепшы паказчык. Так, па сваім складзе гэтая група была прызнаная мацнейшай за другую, бо ў яе складзе гулялі чэмпіёнкі Алімпіяды, свету і Еўропы – датчанкі, нарвежкі, гаспадыні спаборніцтваў. Але яны выступалі без сваіх лідэраў. Толькі аднойчы – у паядынку з датчанкамі – наша зборная відавочна была слабейшая, прайграўшы 8 мячоў, у астатніх матчах барацьба была роўная, практычна ва ўсіх з іх беларускі вялі ў ліку да самай фінальнай сірэны, але не змаглі дабіцца перамогі. Памылкі трэнераў, слабая псіхалагічная падрыхтоўка ці нешта іншае – разбор няўдалай гульні яшчэ наперадзе. Але зараз маем, што зарабілі самі: зноў «...наццатае» месца, таму што сёння дзве няўдачніцы на чэмпіянаце – зборная Беларусі і Аўстрыі – вызначаць, каму быць толькі адзінаццатай камандай Еўропы. А марылі як мінімум аб пятым радку ў табліцы. Відаць, зноў – не тыч носа не ў сваё проса. ■

# Масавы завоз бронзы ў Беларусь

Аляксей СТАЎСКІ

Пяць трэціх месцаў і адно другое – такі вынік выступлення беларускіх гімнастаў на Кубку свету ў шатландскім горадзе Глазга. Прычым падзялілі гэтыя ўзнагароды паміж сабой усяго два спартсмены – Іван Іванкоў і мастацкая гімнастка Юлія Раскіна. Першы ўзяў «срэбра» ў спаборніцтвах на гімнастычным кані і дзве бронзы — на пераякладзіне і на кольцах. На брусах Іванкоў стаў толькі шостым.

Юля ж узяла свае тры бронзы адпаведна ў спаборніцтвах з обручам, з мячом і са стужкай. Найгоршым у Юлі стала пятае месца ў спаборніцтвах са скакалкай. А першыя два месцы ва ўсіх відах падзялілі паміж сабой расіянкі Юлія Барсукова і Аліна Кабаева.

Такі вынік выступлення нашых гімнастак цалкам можна лічыць паспяховым. ■

# Цяжка ў вучэнні, лёгка на чэмпіянаце

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

З наступленнем хакейнага сезона актывізаваліся і беларускія зборныя.

Так, учора нацыянальная зборная Беларусі па хакеі ўзяла старт у праходзячым у славацкім горадзе Трэнчыне *Slovakia Poistovna Tatra Cup-2000.* Беларусы пад кіраўніцтвам галоўнага трэнера АнатоляВарывончыка выехалі ў Славакію не мацнейшым складам з прычыны занятасці многіх легіянераў у нацыянальных чэмпіянатах. Турнір разглядаецца як адзін з асноўных у плане падрыхтоўкі да алімпійскага адборачнага турніру, які возьме старт у лютым у Нарвегіі. Сапернікамі нашых хакеістаў будуць нарвежцы, швейцарцы і славакі.

**У значна больш сціслыя тэрміны будзе праходзіць падрыхтоўка беларускай маладзёжнай зборнай да старту 26 снежня ў Маскве чэмпіянату свету ў групе «А». Там нашых маладых хакеістаў чакае цяжкае выпрабаванне ў змаганні з лепшымі зборнымі свету, і большай задачы, чым захаванне месца ў эліце сусветнага маладзёжнага хакея, ніхто не ставіць.**

Падчас падрыхтоўкі нашы хакеісты правядуць пяць гульняў з дарослымі клубнымі камандамі і маладзёжнай зборнай Масквы. Большасць гульняў адбудзецца на крытым катку ў мінскім парку імя М.Горкага. Усе жадаючыя могуць прыйсці і паназіраць за падрыхтоўкай нашых хакеістаў. А першую гульню «маладзёжка» згуляла з юніёрскай зборнай. Вынік – 5:3 на карысць больш маладых юніёраў. ■

Галоўны рэдактар Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ № 963 Нумар падпісаны ў друк 14/12/2000 (15.00) Наклад – 9.720